# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 12 (18) 17 чэрвеня 1992 г. Цана 80 кап.



ЗЯНОН СТАНІСЛАВАВІЧ ПАЗЬНЯК

## ЗАЧАЦЦЕ НА ХЛУСНІ,

### а таксама Чаму можам застацца голымі

**У «Народнай газеце» № 101 да інтэрв'ю Міколы Дзябёлы з прадстаўніком Мінюста рэспублікі Міхаілам Сухініным была прэамбула, дзе гаварылася, што «выконваючы рашэнне Вярхоўнага суда, Міністэрства юстыцыі зарэгістравала партыю камуністаў». Публікацыя выклікала шмат сумненняў, і наш карэспандэнт Яўгенія Мальчэўская звярнулася да народнага дэпутата, лідэра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянона Станіслававіча Пазьняка, які быў на канферэнцыі філосафаў у Віцебску.**

**—Зянон Станіслававіч, суд, парушаючы ўсе законныя нормы, націснуў на Мінюст і ён зарэгістраваў ПКБ. Ці будзе па гэтаму пытанню, з мэтай абскарджвання рашэння суда, зварот да Генеральнага пракурора?**

—Мінюст абсалютна правільна і законна не зарэгістраваў партыю. Камуністы звярнуліся ў Вярхоўны суд, а там сядзяць тыя людзі, якіх раней прызначылі высокія партыйныя функцыянеры. Яны звязаны асабістым і вельмі сціслым знаёмствам. Цяпер тыя ж функцыянеры звярнуліся да тых, каго самі паставілі, таму атрымалася такая дзіўная канцоўка, што Вярхоўны суд прызнаў незаконным адмаўленне ў рэгістрацыі і абавязаў Мінюст зарэгістраваць камуністаў. На самай справе—абсалютна незаконнае рашэнне Вярхоўнага суда, а поўнасцю правамоцнае і законнае рашэнне Мінюста, які ў гэтай сітуацыі прытрымліваўся закона, таму што Мінюст на гэтай справе ўжо меў шмат непрыемнасцей.

Зараз Мінюст мае ўсе правы, і ён гэта зробіць, я не сумняваюся, звярнецца да Генеральнага пракурора Беларусі, каб той апратэставаў такое вось рашэнне суда і такія яго паводзіны. Таксама да Генеральнага пракурора з просьбай і патрабаваннем апратэставаць незаконнае рашэнне суда звярнулася група народных дэпутатаў. Акрамя таго, гэтыя матэрыялы будуць перададзены ў прэсу. Мы бачым вынік чарговай афёры камуністаў. У дадзеным выпадку гэта —чыста прапагандысцкі аспект, які не заснаваны на заканадаўстве. Апошняе слова будзе за пракурорам. І, натуральна, не апошняе слова павінна быць за грамадскасцю, за дэпутатамі. Мы былі сведкамі таго, што было глумленне над законам і правам. Не думаю, быццам цяпер прылюдна можна паўтараць такое глумленне. Таму важна, каб гэтая афёра з судом была б публічна раскрыта ў сродках масавай інфармацыі. Журналісты павінны даваць інфармацыю такую, як яна ёсць, а не паддавацца прапагандзе, якую распускаюць самі камуністы.

**—Дзейнасць кампартыі была прыпынена. Але яна арганізоўвалася, нягледзячы на тое, што, па паступаючых сігналах з месцаў, Генеральны пракурор рабіў камуністам папярэджанні. Ці не выкарыстоўвалася яго хвароба камуністычнымі паплечнікамі ад права? Ці можа здарыцца так, што скарыстаўшы ад'езд пракурора за мяжу на лячэнне, яго паплечнікі прызнаюць законным рашэнне Вярхоўнага суда? Не можа ж не насцярожыць той факт, што М. Разумаў і М. Собаль амаль з працягнутай рукой звяртаюцца па тэлебачанню за грашовай дапамогай для Ігнатовіча, а В. Кебіч**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПРЭМ'ЕР ЗАСТРАШВАЕ

Прачытаў інтэрв'ю старшыні Саўміна рэспублікі В. Ф. Кебіча ў газеце «Беларуская ніва» ад 9 чэрвеня г. г. У мяне ўзнікла пытанне: чаго болей у нашага прэм'ера—бяспамяцці ці бальшавіцкай перакананасці ў бяспамяцтве народа?

А народ памятае, з якой нецярпімасцю сустракала наменклатурна-камуністычная большасць Вярхоўнага Савета Беларусі прапановы апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце аб раздзяржаўленні ды прыватызацыі эканомікі, аб пераарыентацыі эканомікі рэспублікі на заходнееўрапейкі аграрна-прамысловы комплекс, а не на хворую эканоміку Расіі, аб уласнасці на зямлю ды гэтак далей.

Нагадваю чытачам, што камуністычна-наменклатурная большасць у ВС ды Саўміне сустрэла як недапушчальную ерась прапановы апазіцыі БНФ аб увядзенні ўласнай валюты як адзінага сродку абароны спажывецкага рынку. Кебіч і іншыя супраць прапановы БНФ набудавалі мытных пастоў. Стварылі ўмовы для новага вітка хабарніцтва, прашамаркалі сотні народных мільёнаў і са спазненнем у паўтара гады гавораць прама-такі словамі апазіцыі: «...путь выживания экономики республики заключается в проведении своей собственной денежно-финансовой политики: введении в республике полноценной валюты» (цытуецца па «Советской Белоруссии» ад 4 чэрвеня 1992 г.). Згодзен, што ўспрыманне людзьмі аб'ектыўнай рэальнасці з цягам часу мяняецца. І ў гэтым няма ганьбы. Але ж дзе ж паважаны прэм'ер быў раней?

Надрукаваныя ў «Советской Белоруссии» «Асноўныя накірункі палітыкі ўрада Рэспублікі Беларусь па прадухіленню спада вытворчасці ды фарміраванню ўмоў выхада з крызісу»—гэта па сутнасці ўсё тое, што было прапанавана ў эканамічнай праграме БНФ яшчэ тры гады таму назад, а таксама ў яе праграме выхаду з крызісу, надрукаванай у «Народнай газеце» больш за два месяцы таму. Але аб гэтым ні «Советская Белоруссия», ні В. Ф. Кебіч—ані слова.

Параўноўваючы паслядоўнасць БНФ ва ўсіх пытаннях эканомікі, палітыкі і адраджэння з прыстасаванцкай да камуністычных каштоўнасцяў і таму антынароднай палітыкай урада В. Ф. Кебіча, прыходзіш да высновы, што сённяшнія Вярхоўны Савет ды Урад здольны толькі ўводзіць рэспубліку ў яшчэ больш глыбокі крызіс ды ў рэшце рэшт вядзе да пагібелі беларускага народа як этнаса.

Таму на рэферэндуме, як цывілізаваным сродку выказу палітычнай волі, народ скажа сваё слова аб тым, які Вярхоўны Савет ды Ўрад яму патрэбныя. Захоп улады ды антынародныя перавароты, як сведчыць найноўшая наша гісторыя, рабілі толькі бальшавікі. Застрашванне Кебічам свайго народу вынікамі рэферэндуму—гэта ні больш, ні менш—чарговая бальшавіцкая прапаганда.

**Ул. ДУБАВЕЦ.**

## VIVAT, Acamdemia de Polocko!

**Падсумаваны рахункі нарады ў Полацку, якая праводзілася 6—7 чэрвеня з нагоды 180-годдзя Полацкай езуіцкай Акадэміі. Пачну з крытычнага.**

З моцы традыцыйнай самаедскасьці ды нацыянальнай непаўторнасці нарада чамусьці атрымала статус навукова-практычнай, што безпадставна прыніжала ейны навуковы ўзровень. А імёны сапраўды гучалі самавітыя: Адам Мальдзіс, Уладзімер Конан, Валянцін Акудовіч. Адкрылася, што на нараду жадалі трапіць многія замежныя беларусісты, але чамусьці не атрымалі запрашэньня фундатараў—фонду культуры, полацкага гарвыканкама, наваполацкага політэхнічнага інстытута, няйначай усё тая ж самаедскасьць не дазволіла. Дарэчы, нідзе ў Полацку абвестак пра канферэнцыю не сустрэлася—выходзіць яна ладзілася толькі дзеля навукоўцаў. Па-ранейшаму правячага кляна страшыць усё, што ідзе з Захаду, ад езуітаў, ад Папы Рымскага.

Вітальнае слова старшыні Полацкага гарвыканкама і гарсавета Канстанціна Хоміча традыцыйна пачалося са згадкі пра інтэрнацыянальны склад аўдыторыі, пасьля чаго таварыш Хоміч прамаўляў страшэннай трасянкай афіцыёзнага жаргону са мноствам словаў-паразытаў. Відаць, дзякуючы гэтаму няўдаламу зачыну кіроўцы нарады паменьшылі планку патрабавальняў для дакладчыкаў, бо рэглямэнту трымаліся адвольна. Між тым на прыстойных навуковых нарадах тых прамоўцаў, што не ўкладіся ў свае 15 хвілін абсякаюць адключэньнем мікрафону. Нічога не папішаш—калі ты навуковец—май ласку за гэты час здолець выкласьці сваю думку.

Думкі ж сапраўды гучалі цікавыя. Канцэпцыя элітарнай адукацыі і адкрыцьцё яе ў Полацку ў езуіцкіх мурах (Алесь Жлутка, Менск, цэнтр імя Скарыны). Лацінка ў транслітэрацыі імёнаў у беларускім пашпарце, скасаваньне пятай графы і стварэньне ўзорнага беларускага Іменьніка (Вінцук Вячорка).

Безумоўную цікавасьць выклікала паведамленьне аб уніяцкім веравызнаньні Сімяона Полацкага. Больш таго, выдаючы свае кніжкі ў Масковіі, ён падпісваў іх поўным тытулам базыльянскага манаха (маскавіты тады да чытаньня лаціны яшчэ не ўзьняліся).

Не менш цікавым было паведамленьне доктара навук з Масквы Юрыя Лабынцова пра першых каталіцкіх місіянераў у Полацку. Па ягоных дадзеных, імі былі манахі-францысканцы. Яны пабудавалі касьцёл Сьв. Францыска і карысталіся мовай Полацкай зямлі ў набажэнствах. Манахі не змушалі да перахросту—верніку дастаткова было прызнаць падпарадкаваньне Папу Рымскаму. На нашу думку (М. П.), гэтак увасабляся ў жыцьцё пастанова Флярэнцкага Сабору аб паяднаньні цэркваў. Ня выключана, што Францішак Скарына ўзяў у францысканцаў ня толькі імя, але і пачатковую адукацыю. Вось адкуль бярэ пачатак эйкуменічнасьць Скарыны.

Пасьля першага дня пасяджэньня нарадоўцы наведалі магілу слаўнага сына Полаччыны, акадэміка жывапісу Івана Хруцкага ў Захарніцах. Страчаную ж у навуковых баталіях «сілу» аднаўлялі цудоўным крупнікам па братчыне.

**Міхась ПАЎЛАЎ.**

*Яшчэ раз пра кармушку*

# ПА ЎЛАСНАМУ ЖАДАННЮ?

Наша грамадства перажывае важнейшы этап у сваім развіцці. Пасля набыцця дзяржаўнай незалежнасці галоўнае—усталяваць дэмакратычны лад на Беларусі. З гэтай мэтай дэмакратычнай апазіцыяй сабрана неабходная колькасць подпісаў для правядзення рэферэндуму аб адстаўцы паразітычнага наменклатурнага Вярхоўнага Савета і антынароднага ўрада.

Гэта пытанне будзе разглядацца на бліжэйшай сесіі парламента. На гэтай жа сесіі вырашана абмеркаваць і, напэўна, прыняць новую Канстытуцыю Беларусі. Аб чым і заявіў на днях старшыня канстытуцыйнай камісіі М. Дзямянцей.

Думаю, такое супадзенне не выпадковае. Пасля прыняцця Канстытуцыі наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета зможа заявіць: «Мы свой абавязак перад народам выканалі» і прызначыць выбары ў Вярхоўны Савет (Сойм) на шматпартыйнай аснове на канец гэтага года ці, верагодней, на вясну наступнага года. Адбудзецца самароспуск Вярхоўнага Савета цяперашняга склікання. Заўсёды лепей своечасова звольніцца па ўласнаму жаданню, чым чакаць прымусовага звальнення, калі ўжо такая пагроза навісла. Пры гэтым можна хоць у нейкай ступені захаваць сваю рэпутацыю. Наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета гэта добра разумее. Такім чынам, пытанне пра рэферэндум як бы адпадае.

На маю думку, дэмакратычнай апазіцыі нельга пагаджацца з такім ходам падзей. Нельга дазваляць камуністычным дэмагогам зноў адурманіваць наш народ. Рэферэндум павінен адбыцца!

А камуністычная дэмагогія ў апошні час вельмі ўзмацнілася. Можа, камуністы ўжо пачалі падрыхтоўку да парламенцкіх выбараў? Зарэгістравана зноў утвораная ПКБ—КПБ (ад перастаноўкі літар, як і складаемых, нічога не змяніцца). У канцы мая ўтворан Віцебскі гаркам кампартыі. У хуткім часе, напэўна, і абкам вернецца на сваё месца.

Да нас, на Бацькаўшчыну нашу, нахрапам лезуць розныя жырыноўскія і шведы (гл. «Віцьбічы» 30 мая г. г.). Дарэчы, у гэтым інтэрв'ю «Віцьбічам» «стойкі камуніст» В. Швед з Літвы прамаўчаў наконт таго, чым ён думае займацца ў Віцебску. Ды і карэспандэнт чамусьці ўстрымаўся ад такога пытання. Дастаткова і таго, што В. Швед «впредь не будет занимать никакие государственные посты».

На маю думку, калі пытанне пра рэферэндум будзе заблакіравана камуністычнай большасцю, то дэмакратычная апазіцыя павінна будзе звярнуцца непасрэдна да народа і пайсці на азербайджанскі ці таджыкскі варыянт адхілення камуністычнай наменклатуры ад улады.

Вопыт сведчыць: ніколі і нідзе камуністы добраахвотна не ўступалі ўладу (гэта значыць, кармушку). Магчымы самароспуск Вярхоўнага Савета пасля прыняцця новай Канстытуцыі ў гэтым годзе—гэта проста чарговы манеўр наменклатуры, яе спроба апраўдацца перад народам і паставіць у нявыгаднае становішча ініцыятараў рэферэндуму, БНФ, і такім чынам перахапіць ініцыятыву перад выбарамі ў новы парламент.

**Анатоль БУКАЧОЎ.**

*З рэдакцыйнай пошты «Выбара»*

*Шаноўны спадар рэдактар!*

*Вельмі просім зрабіць ласку маладым калегам з адроджанай «Нашай Ніве»—надрукаваць допіс М. Трафімчука. Пераканаўча просім зрабіць гэта як мага хутчэй.*

*Усяго вам найлепшага!*

*Загадзя вельмі ўдзячны Вам!*

**Метадысты Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра.**

# «НАША НІВА»—НАША ГАЗЕТА

З восені 1906 па лета 1915 года гэта была адзіная беларускамоўная газета. Вакол яе гуртаваліся лепшыя сілы першага ў гэтым стагоддзі беларускага Адраджэння.

На старонках «Нашай Нівы»—легальнай штотыднёвай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты—з'яўляліся публікацыі вядомых у той час дзеячоў нацыянальна-вызваленчага руху. А ў апошнія гады рэдактарам і выдаўцом «Нашай Нівы» быў Янка Купала. З газетай супрацоўнічалі амаль усе беларускія пісьменнікі так званай «нашаніўскае» пары: Цётка, Багдановіч, Колас, Гартны, Бядуля, Гурло, Буйла ды іншыя. У перакладзе на беларускую мову тут друкаваліся творы рускіх і польскіх класікаў.

Значную ролю адыграла «Наша Ніва» і ў прапагандзе беларускіх кніг, музыкі, першых календароў, тэатра Ігната Буйніцкага.

Летась, ажно праз 76 гадоў, «Наша Ніва» зноў з'явілася на свет. Яе выдаўцом спачатку стаў малады беларускі прадпрымальнік Павел Жук, а потым гэтыя функцыі пераняў Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр. Рэдактарскую справу распачаў беларускі крытык Сяргей Дубавец.

Рэдакцыя паставіла перад сабой мэту працягваць традыцыі «Нашай Нівы» пачатку стагоддзя. Па-ранейшаму «штаб-кватэра» яе знаходзіцца ў Вільні.

Пакуль выйшаў толькі шосты нумар аднаўленай газеты. Сталай перыядычнасці няма. Але з 1 ліпеня гэтага года «Наша Ніва» пачне выходзіць рэгулярна—раз у месяц. Гэта азначае, што з другога паўгоддзя можна афармляць падпіску на «Нашу Ніву» праз «Саюздрук» рэспублікі. А таму—спяшайцеся! Падпісная цана гэтай даволі аб'ёмнай штомесячнай газеты (16 старонак) на месяц—3, на тры месяцы—9, на паўгода—18 рублёў. Індэкс 63125. Зрэшты, падпісацца можна з любога месяца другога паўгоддзя.

«Наша Ніва»—неад'емны спадарожнік усіх тых, хто цікавіцца гісторыяй, мастацтвам, літаратурай, рознымі пытаннямі грамадскага і культурнага жыцця краіны, свету.

**М. ТРАФІМЧУК.**

*ПОЛЬСКАЕ РАДЫЕ ВАРШАВА ПРАГРАМА ДЛЯ ЗАМЯЖЫ*

**Дарагія сябры!**

Звяртаемся да Вас з сардэчнай, сяброўскай просьбай. У нашых перадачах на беларускай мове, якія пускаем у эфір ад снежня мінулага года, упершыню абвяшчаем конкурс.

Залежыць нам на тым, каб дайсці да магчыма найшырэйшых кругоў патэнцыяльных слухачоў перадач на беларускай мове, якія выходзяць у эфір з варшаўскага радыё. Таму як раз просім Вас абвяшчаць на старонках Вашай шырока вядомай газеты (хаця б раз) умовы конкурса, а таксама гадзіны і хвалі, на якіх можна слухаць нашы перадачы.

У нашай дзейнасці мы стараліся быць адкрытымі на ўсе праблемы, якімі жывуць нашы дзве дзяржавы, прапанавалі гэтыя справы, якія закраналіся на старонках Вашай газеты, а таксама змяшчалі інтэрв'ю з журналістамі беларускай прэсы.

Мы былі б удзячныя за паведамленне нас пра дату публікацыі ўмоў нашага конкурсу або дасланне нам адпаведнага нумару.

З надзеяй, што захочаце выйсці насустрач нашай просьбе, перадаем Вам словы пашаны і сардэчныя прывітанні.

**Яраслаў ІВАНЮК, кіраўнік Беларускай рэдакцыі Польскага радыё.**

(Умовы конкурса рэдакцыя друкуе на 8-й стар.)

# Не верят, что погиб

**Пришел недавно к знакомым в квартиру. В комнате большой портрет молодого офицера, окаймленный черной лентой. 23 года. Служил в Витебске. Мастер спорта по подводному плаванию. Погиб на одном из озер. Участвовал в поисках подбитого в годы войны самолета. Как произошла на озере эта трагедия? Пока сказать трудно. Остались малолетний ребенок, молодая жена.**

**Нелегко смириться с гибелью человека, который только начал самостоятельную жизнь, был счастлив.**

**Друзья дали слово продолжить поиск самолета. И во имя чего? Зачем эти непродуманные, непрофессиональные игры?**

**Энтузиасты нужны, открыватели—в особенности. На Западе мы немало слышали о дерзких начинаниях, об очередных рекордах, занесенных в книгу Гиннеса. Не забывают там и о цене человеческой жизни. Если рискуют, то с умом, вооружившись всем необходимым. И государство поощряет смелых и одержимых.**

**А кому теперь какое дело до погибшего под Витебском нашего горожанина, молодого офицера? Только и память ему вечная—горькие слезы молодой вдовы и родителей. И сиротинке будут показывать фотографию отца.**

**Еще один снимок видел я. На нем молодой, сильный человек в гидрокостюме. Да, любил безумно природу, свою семью. Крепко подружился с корешами по военному училищу. Около 40 дней назад слетелись они в Витебск со всех концов СНГ хоронить друга. Не верили, что погиб. Не могут привыкнуть к этой мысли и сейчас.**

**С. БЫСТРОВ.**
**г. Витебск.**



ВЯСНА 1991-га. г. МІНСК.

# ЗАЧАЦЦЕ НА ХЛУСНІ,

## а таксама Чаму можам застацца голымі

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**нават адмаўляе ў прыёме дэпутатам, што ішлі з хадатайствам для пракурора!**

—Канечне, Ігнатовіч для наменклатуры як костка ў горле. Яна ж ведае, што яго падтрымліваюць дэмакратыя і Народны Фронт. Добра яна ведае і тое, што Ігнатовіч, будучы дэпутатам у Вярхоўным Савеце СССР, узначальваў камісію па прывілеях. Папрацаваў ён там вельмі добра. Наменклатура разумее, з кім яна мае справу, бо гэты чалавек—прынцыповы, сумленны. Але ён аказаўся хворым. Гэта, мяркую, было выкарыстана. У прыватнасці, нападзенне на яго ў Парыжы, затым—аграбленне, абрабаванне яго кватэры. Тут не можа быць выпадковасці, бо для людзей наменклатурнага рангу такі пракурор проста «ЧЭПЭ».

Што тычыцца вашага пытання, нібы іншыя пракуроры могуць нешта зрабіць? Канечне, могуць. І не толькі закон парушыць, але і на галаву стаць, і ўсё, што хочаш. Гэта—зразумела. Але, калі раней мы жылі ў такім грамадстве, дзе маглі парушаць законы і выдаваць белае за чорнае, і ніхто нічога не ведаў, то той час мінуў. Зараз ёсць і структуры, і людзі, і адпаведны ўзровень у грамадстве, які выведзе ўсё гэта на чыстую ваду. І журналісты не застануцца збоку. Я думаю, што яны не будуць паддавацца прапагандзе, а дакапаюцца да сутнасці. Калі ж гэта ўсё будзе выкрыта, то, зразумела, бясспраўе не будзе існаваць вечна.

**—Тады—пра рэферэндум. Што свеціць? Ці можа здарыцца так, што пытанне аб рэферэндуме, вынесенае на парадак дня, будзе адвергнута кансерватыўнай большасцю, якая здольна парушыць самой жа прынятыя зусім нядаўна законы!**

—Я лічу, што ў той палітычнай сітуацыі, якая зараз склалася, абсалютна не важна, якія рашэнні будзе прымаць гэта большасць. Бо, што б яна ні рабіла, усё не ў яе карысць. Палітычнае становішча ў гэтай большасці проста безвыходнае. Яна даўно ў палітычным тупіку, цяпер гэты тупік легалізаваны. Сабрана амаль паўмільёна подпісаў. Камісія па рэферэндуму прызнала іх законнымі. Гэтым самым ужо прынята рашэнне аб правядзенні рэферэндуму. Каб выканаць закон, засталося толькі прызначыць дату, сабраць сесію. Значыць, да 12 чэрвеня, гэта апошні тэрмін, прэзідыум павінен прыняць рашэнне аб яе скліканні.

Калі такога ўзроўню палітыкі скліча сесію, але не прызначаць дату рэферэндума, то вынікі такіх дзеянняў будуць для іх яшчэ больш катастрафічнымі, чым сам рэферэндум. Я не думаю, што ў іх абсалютна адсутнічаюць галовы, каб паводзіць сябе такім чынам. А вось зацягнуць справы, зрабіць парушэнні законнасці яны будуць старацца. Цяпер якое чысло? А прэзідыум яшчэ не прыняў пастановы аб скліканні чарговай сесіі Вярхоўнага Савета, заключны ж Акт камісіі па рэферэндуму **перададзены 12 мая.** Згодна заканадаўству **на працягу месяца** прэзідыум павінен прыняць рашэнне. Пакуль што гэтага няма. І калі не будзе **да 12 чэрвеня,** то стане бачным парушэнне заканадаўства з боку прэзідыума і канкрэтных грамадзян, канкрэтнага Шушкевіча. Бо ён сам мае права склікаць сесію. Гэта—юрыдычны аспект, які дае права ініцыятыўнай групе па правядзенню рэферэндуму прымаць адпаведныя меры. Акрамя таго ёсць яшчэ палітычны аспект. Ён заключаецца ў тым, што згодна фармулёўцы, якая вынесена на рэферэндум, і пад якой паставілі подпіс звыш 440 тысяч грамадзян, выбары павінны адбыцца ўвосень 1992 года. Гэта значыць, што трэба строга выконваць заканадаўства.

Пасля таго, як сабраны подпісы і зроблены заключэнні, трэба, каб Вярхоўны Савет прыняў бы рашэнне на працягу трох месяцаў. Гэта значыць, рэферэндум павінен **адбыцца ў канцы лета.** Пасля таго, як рэферэндум адбудзецца, законам устаноўлены тэрмін, адпаведна якому павінны адбыцца выбары. Дык вось, каб спраўдзіць волю амаль паўмільёна людзей, каб выканаць закон, трэба па закону і дзейнічаць. Гэта—палітычны аспект пытання, ад якога, як і ад юрыдычнага, Вярхоўны Савет **уцякае.** Прэзідыум прыняў рашэнне аб парламенцкіх канікулах. Якія парламенцкія канікулы? Гэта ж—не парламент. Гэта ж—Вярхоўны Савет, не прафесійная ўстанова. Таму ясна, чаму прынята рашэнне аб двухмесячным роспуску на канікулы, да 15 жніўня. Гэта—не што іншае, **як уцёкі ад рэферэндума. Гэта—хаванне галавы ў пясок.** Гэта—палітычнае аблічча, якое відаць. Галаву схавалі ў пясок, а што ўсё бачна, дык бачна. Калі ігнаруецца воля людзей, калі пацвярджаецца гэта, відавочна ж недзеяздольнасць палітыкаў. Тым не менш, у любым выпадку, якія б меры імі не прымаліся, але ад рэферэндуму нікуды не дзенешся. Ім хочацца адцягнуць рэферэндум, але сваімі дзеяннямі яны губляюць балы нават у тых людзей, якія мяркуюць, што гэты Вярхоўны Савет яшчэ на нешта здатны. Так што, яны вольны выбіраць свае дзеянні. Яны выбралі антызаконныя, антынародныя, і, я б сказаў, авантурныя.

**—І яшчэ такое пытанне, Зянон Станіслававіч. Беларусь—дзяржава суверэнная. Яна ўстанаўлівае дыпламатычныя сувязі з іншымі краінамі, адкрывае там шматлікія пасольствы. І вось Вярхоўны Савет, Саўмін, каб перад выбарамі аслабіць апазіцыю, лепшых і разумных людзей з уяўнай мэтай падсаджвае на прэстыжныя пасольскія пасады ў іншыя краіны. Правільная мая думка?**

—Абсалютна правільная! Поўнасцю з вамі згодзен. Шукаюць не толькі людзей, якіх, як вы гаворыце, можна падсадзіць на пасаду, але выкарыстоўваюць і псіхалагічныя моманты. Я размаўляў двойчы са спадаром Садоўскім. Першы раз тры месяцы назад, калі ўзнікла пытанне аб прызначэнні яго паслом у Германію, прыводзіў усе аргументы аб немагчымасці такога кроку з яго боку, апошні раз—нядаўна. Аргументы з боку Садоўскага былі такія, што тую палітыку, якую ён хоча праводзіць на займаемай пасадзе, ён проста не можа. Таму, што яе поўнасцю блакіруюць. Яго акружыла кругом вось гэтая наменклатура, і за многія дзеянні на міжнароднай арэне яму проста сорамна, бо ён разбіраецца, паколькі Садоўскі—адукаваны чалавек, валодае дасканальна пяццю мовамі, ведае эканоміку, юрыспрудэнцыю, гісторыю, лінгвістыку. Ён проста не бачыць перспектывы ў сваёй рабоце. І вось, ведаючы такі псіхалагічны стан, наменклатура пазбаўляецца ад сваіх палітычных праціўнікаў. Я лічу, з боку спадара Садоўскага гэта—памылка, тым больш, што падыходзяць перамены. Цяжка патрабаваць ад чалавека характару, сілы волі, калі іх не хапае. Цяжка. Але апазіцыя, Народны Фронт не ставіць сябе ў такую жорсткую пазіцыю, як камуністы, каб загадваць сваім сябрам, як жыць і як сябе паводзіць. Усё ж такі гэта звязана з чалавечым лёсам, кожны сам павінен вырашаць, як сябе паводзіць. Але свае адносіны, сваю ацэнку мы выказалі.

Што датычыць другіх прызначэнняў, то я лічу, што ў такім жа плане трэба разглядаць і іншых. Напрыклад, прызначэнне намесніка міністра замежных спраў спадара Сінько надзвычайным паслом у Польшчу. Гэта чалавек дастаткова прафесійны, з добрым дыпламатычным вопытам, і ён знача мог бы дапамагчы міністэрству, рэспублікі, калі б застаўся тут. Але ў наменклатурнай гульні існуюць свае правілы, і яны па гэтых правілах гуляюць. Магчыма, будуць яшчэ такія захады. Гэта—стандартныя хады. Не думаю, што будзе шмат ахвотнікаў, але аднаго—двух яны яшчэ могуць знайсці. Тое, што яны жадаюць пазбавіцца ад сваіх палітычных праціўнікаў і заняць тыя месцы, што займала апазіцыя, гэта—бясспрэчна.

**—Скажыце, справа з прыватызацыяй Белдзяржстраха перададзена ў суд. Ці зможа ён убачыць антызаконнасць гэтага акту, тых жа самых Кебіча і Стасюка!**

—Тут і бачыць нічога не трэба. Гэта відно з зачыненымі вачыма. **Гэта—крымінальнае злачынства.**

**—Так, злачынства. Але ж яно павінна караца. Ці ёсць нейкая магчымасць на сёння ацаніць гэтае злачынства як злачынства!**

—Па закону—ёсць. Але законы ў руках старой структуры, якая будзе рабіць усё, каб гэтыя законы парушыць усімі магчымымі сродкамі. Ды не ўдасца гэта, таму што апанентамі будуць таксама юрысты, людзі прынцыповыя і дастаткова адукаваныя. Не ведаю, як з гэтага становішча ім прыйдзецца выкручвацца. Ужо абнародаванне такога факта, што прэм'ер-міністр і яго намеснік падпісалі акт аб прыватызацыі дзяржстраха, аб выкарыстанні яго сродкаў у камерцыйных мэтах, сродкаў, якія ўкладалі людзі і арганізацыі ў дзяржаўную структуру, гаворыць, што гэты факт—беспрэцэдэнтны. Пасля такога трэба ісці ў адстаўку. Але ж у нас ва ўладзе дзейнічаюць камуністычныя стэрэатыпы, па якіх у адстаўку не ідуць.

**—Як апазіцыя Народнага Фронту ставіцца да рэарганізацыі Белдзяржтэлерадыё! Журналісты пратэстуюць, бо іх звальняюць у масавым парадку. З'явілася думка, што гэта робіцца, каб пры новым наборы на работу ажыццявіць «адстрэл» сумленных, але непрыдатных для гаспадароў журналістаў...**

—Белдзяржтэлерадыё знаходзіцца ў руках былой партыйнай наменклатуры, у руках Саўміна, таму ўсе іх рэформы не пойдуць на карысць свабоды слова, на карысць нашаму грамадству і Белдзяржтэлерадыё.

**—Апазіцыя Народнага Фронту выступае за прыватызацыю, за права на ўласнасць. Той жа думкі і камуністычная большасць у Вярхоўным Савеце. Але яна пры дапамозе, будзем гаварыць адкрыта сумленных у сваёй перакананасці камуністаў з ліку ветэранаў, якія супраць прыватызацыі, увогуле затармажвае прынящце неабходных законаў і актыўна прыхватызуе. Растлумачце гэта. Бо народ лічыць, што БНФ дае зялёнае святло капіталізму і не ўспрымае сапраўдных прычын непрыняцця законаў. Тым самым нямалая колькасць лічыць, што гэта большасць у Вярхоўным Савеце працуе на яго карысць.**

—Уся справа ў тым, што прыватызацыя, якая зараз адбываецца, ідзе на незаконнай аснове. Апазіцыя ж ставіць пытанне аб прынцыпе закона. А калі прыняць закон, то ён аднолькавы для ўсяго насельніцтва. Яго ж няма, і доступ да прыватызацыі на аснове сумнітельных падзаконных актаў маюць толькі тыя структуры, якія знаходзяцца ва ўладзе. Вось адкуль і пайшла прыхватызацыя. Прыхватызацыя—гэта прыўлашчванне дзяржаўнай маёмасці наменклатурай, невялікай групай людзей. Гэта дзеянне ў некаторых аспектах крымінальнае, такое ж, як і прыватызацыя Белдзяржстраха.

Выступленне апазіцыі адносна закона аб прыватызацыі толькі ў тым, каб даць зялёнае святло для ўсіх людзей, а не для вось гэтай кучкі. Вось таму наменклатура не прымае закон аб прыватызацыі, аб карупцыі і іншым, таму яна супраць. З аднаго боку яна гаворыць, што трэба ісці да рынка, і мы гаворым: добра, давайце ісці да рынка, але давайце прымем рыначныя законы. А яны ім не патрэбныя. Чаму? Таму што ў руках наменклатуры ўлада, і яна абкрадвае дзяржаву. Але, абкрала яшчэ не ўсю. Таму ёй непатрэбныя ніякія законы, бо не хоча ні з кім дзяліцца. Яна адцягвае іх як толькі можа. Калі ж усё пусціць на самацёк, яны рана ці позна абавязкова прымуць гэтыя законы. Але, калі абкрадуць, тады і замацуюць. Вось чаму мы выйшлі з прапановай на рэферэндум. Інакш, застанемся ўсе голымі і будзе, як у Паўднёвай Амерыцы: будзе кучка ў 1% мільярдэраў, якія раскралі дзяржаву, і голы народ. Вось у чым справа, таму трэба абавязкова праводзіць рэферэндум, і чым хутчэй. Ад таго, што нехта яшчэ спадзяецца, што гэты Вярхоўны Савет пачне нешта рабіць, проста немагчыма. Таму што гэта супярэчыць яго інтарэсам, і зусім не ад таго, што ён кепскі ці амаральны, хоць гэта ўсё так, а таму, што ў яго свае інтарэсы, якія супярэчаць інтарэсам народа. Яны жывуць па іх. Таму тут пытанне—не эмацыянальнае, не густоўнае, не ў якіх там адносінах. Тут—палітычны аспект, які раскладаецца як матэматычная формула. І іншага выхаду, як змяніць гэты ўрад і Вярхоўны Савет, няма. Калі такое не адбудзецца, працэсы збяднення нашага народу будуць прадаўжацца і дойдуць да вельмі цяжкіх вынікаў. Вельмі цяжкіх.

**—Мне гэта зразумела, але хацелася, каб простыя людзі, у тым ліку і перакананыя камуністы, падумалі над тым, каго будуць яны вініць, калі, не змяніўшы «коней на пераправе», акажуцца ля разбітага карыта са сваім, пакуль што любімым некаторымі, Вярхоўным Саветам і яго ўрадам.**

*У мясцовай філіі БНФ*

# НА ПАСЕДЖАННІ—АБ КАНФЕРЭНЦЫЯХ

Адбылося чарговае сумеснае паседжанне Віцебскае гарадское рады БНФ і клуба «Узгор'е», на якім у асноўным абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з канферэнцыяй філасофаў, што была на днях.

Былі выказаны думкі (Ю. Сцяпанаў, А. Мудрычэнка, У. Плешчанка), што, на жаль, філасофская сустрэча прайшла пад знакам адмаўлення нацыянальнага адраджэння нашага народа. Нацыянальны нігілізм, на вялікую шкоду, закрануў большасць навукоўцаў—беларусаў. Арганізатары мерапрыемства, адзначана ў выступе М. Паўлава, не парупіліся нават запрасіць нацыянальна свядомых вучоных.

Старшыня клуба «За дэмакратычныя выбары» Б. Хамайда выказаў думку аб неабходнасці такіх «круглых сталоў», якія даюць вялікі досвед вядзення дыскусіі.

М. Паўлаў і І. Цішкін распавялі пра навукова-практычную канферэнцыю па гісторыі, прысвечаную юбілею Полацкай езуіцкай Акадэміі. Яна прынесла добры плён, але ж, лічаць прамоўцы, некаторыя хібы ў арганізацыі імпрэзы ўсё ж былі.

На гэтым тэма канферэнцый не завяршылася. У. Плешчанка расказаў пра ход менскай канферэнцыі па пытаннях працы мясцовых улад на Беларусі. Большасць прыбыўшых на яе выказалася за новыя формы мясцовага кіравання. На сустрэчы быў прапанаваны праект новага тэрытарыяльнага падзелу нашае дзяржавы. Многія ўдзельнікі канферэнцыі падтрымалі ідэю рэферэндума.

Н ПРЫСУТНЫ.

 



# І БУДЗЕМ!

## ЎСТУПЯЦЬ У СУПЯРЭЧНАСЦІ

—Вы сказалі, што плануеце выступіць з ініцыятывай увядзення інстытута прэзідэнта на Беларусі. Як паставяцца да гэтага ў сённяшнім Вярхоўным Савеце? Калі з такой ініцыятывай мяркуеце выступіць?

—Можна з гэтай ініцыятывай выступіць і сёння. Справа ў тым, што з самага пачатку мы падтрымліваем рэферэндум, удзельнічалі ва ўсіх мерапрыемствах па збору подпісаў і далей будзем працаваць у гэтым напрамку, але мы лічым, што час не дазваляе нам спыніцца на гэтым, бо вядома, які наш Вярхоўны Савет. Ён робіць усё для таго, каб зацягнуць рэферэндум. У лепшым выпадку ён адбудзецца восенню гэтага года, а то і зімой, а выбары толькі вясной. За гэты час можа проста наступіць эканамічны крах.

Выбары ўсё ж адбудуцца, але ўрад створыцца толькі праз некалькі месяцаў. Новы Вярхоўны Савет не будзе ўжо з нейкай там большасцю, каб фармаваць яго па-свойму. Таму прэзідэнт павінен зрабіць усё значна раней.

—Як будзе, калі Вярхоўны Савет прыме вашу ініцыятыву і раптам прэзідэнтам акажацца Каратчэня ці яму падобныя?

—Па-першае, прэзідэнт павінен быць абраны ўсенародным галасаваннем, а гэта ўжо гарантыя, што ўмоўны Каратчэня ніколі не стане прэзідэнтам. Іншая справа, што Вярхоўны Савет можа не пайсці па шляху падтрымкі нашай ініцыятывы. І ён, што верагодна, нас не падтрымае. Тым не менш, мы лічым, прапанову трэба рабіць. Пытанне ставіць будзем як мага раней, бо неабходна строгая выканаўчая ўлада.

—Ці не лепш ставіць пытанне аб прэзідэнцтве ў час выбараў?

—Неабходнасці чакаць выбараў не бачу, таму што Вярхоўны Савет—гэта заканадаўчая ўлада, а прэзідэнт—і выканаўчая.

—Але ж, калі нават такая ініцыятыўная прапанова пройдзе ў Вярхоўным Савеце, на сёння няма рэальнага тэрміну, каб да выбараў усенародна абраць прэзідэнта.

—Сапраўды, вельмі цяжка гэта давесці да людзей, але эканамічнае становішча вымагае. І калі цвёрдай улады не будзе абрана законным чынам, яна можа з'явіцца незаконным у выніку таго, што эканоміка можа прыйсці ў тупік і наступіць хаос, яе крах.

—Задаю не першаму пытанне: ці лічыце вы справядлівым націск суда на Мінюст, які адмовіў у рэгістрацыі камуністычнай партыі!

—Да суда, зразумела, трэба адносіцца з павагай. Тым не менш, парушэнні, якія былі ў час з'езду ПКБ, даволі сур'ёзныя, і суд падышоў тут хутчэй з палітычнага боку: зрабіў націск, не гледзячы на законнасць. Але мы ведаем, да чаго гэта прыводзіць, калі права ажыццяўляецца з другаснай каштоўнасці. Гэта ўжо не закон, а хутчэй воля нейкай асобы. Гэта—не дапушчальна.

—Ці можа ПКБ стаць рэальнай палітычнай сілай?

—Можа, калі зноў набярэ ўжо аднойчы падманутых людзей, тых, хто не зразумеў, якая гэта пачвара камунізм. Але той, як была КПБ, новым камуністам ніколі не стаць.

—Як вы думаеце, ці ўступяць у супярэчнасць камуністы з КПБ, якія перайшлі ў прадпрымальнікі і камуністы з ПКБ, якія за сацыялізм з камуністычнай перспектывай?

—Атрымоўваецца так: тыя камуністы, якія перайшлі ў прадпрымальнікі, яшчэ ў нейкай ступені захавалі камуністычны менталітэт. Але яны робяцца іншымі людзьмі. За ўласнасць, якую мелі і раней, нягледзячы, што яна была дзяржаўнай, яны адказнасць не неслі, а цяпер, хоць і пасля прыхватызацыі, яны паўсталі перад адказнасцю за ўжо сваю ўласнасць. Таму яны будуць працаваць, каб гэтая ўласнасць не знікла. Гэта—ужо іншыя людзі, і яны будуць мець многа супярэчнасцей з тымі камуністамі з ПКБ, якія жадаюць наогул захаваць усе камуністычныя ідэалы і не дапускаць прыватнай уласнасці. Супярэчнасці паміж старымі і новымі будуць вельмі моцныя, такое непазбежна, і гэтым дэмакратам трэба карыстацца.

---

да рускіх і гэтак далей, каб не крычаць адзін аднаму, што нейкі народ аб'ядае другі, трэба проста раздзяліць нашу фінансавую гаспадарку. Трэба ўвесці адзіную сістэму фінансавых разлікаў і вытлумачыць, што мы гандлюем адзін з другім на аснове вызначэння адносін нашых грашовых адзінак, напрыклад, да долара ці экю. Праводзіць разлік нацыянальнай валютай адносна да долара не мае ніякіх тэхнічных праблем. Патрабуецца толькі адно: праявіць адзінства і палітычную волю і сказаць, што мы не дзеці і не зможам жыць у адзінай рублёвай прасторы. Бо мы—народы. У кожнага свой узровень вытворчасці працы, свой менталітэт, свае гістарычна-культурныя і этнічныя асаблівасці, і таму мы павінны гандляваць адзін з другім на аснове тых формаў, якія прыняты ва ўсім свеце.

**—Каб рэалізаваць прагрэсіўныя эканамічныя праграмы на наступных выбарах, дэмакратычныя сілы пойдуць адзіным фронтам, ці кожная партыя будзе выступаць толькі за сваіх прадстаўнікоў, не прымаючы пад увагу іншых!**

—Зразумела, не. Мы рэальна ацэньваем сітуацыю і абавязкова павінны ісці разам, для таго, каб нашы дэпутаты маглі былі быць найбольш поўна прадстаўлены ў парламенце. Бо, калі не будзе новага парламента, не будзе і новага ўраду, а не будзе новага ўраду, не будзе новых і эканамічных рэформаў. Тады Беларусь, як бы гэтага не жадалі, прыйдзе да сацыяльнага выбуху.

## ПРЫЙШОЎСЯ НЕ ДА КАМПАНІІ

**Мікалай Разумаў, член АДПБ, прафсаюзны лідэр рабочых Оршы быў удзельнікам круглага стала філосафаў. Напярэдадні яго правядзення ён выступіў па тэлебачанню са шчырай занепакоенасцю станам здароўя Генеральнага пракурора Рэспублікі. У сувязі з гэтым ад нашай газеты яму паступіў шэраг пытанняў.**

**—Мікалай Яўгенавіч, сэнс вашага і Міхаіла Собаля выступлення, а хутчэй зварот да грамадзян Беларусі, да кіраўнікоў прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў звадзіўся да просьбы аказаць матэрыяльную дапамогу Генеральнаму пракурору ў выездзе за мяжу для лячэння. Нядаўна я даведалася, што ў Францыі, зразумела, не французамі, быў зроблены замах на яго жыццё. Адкажыце, яго аперацыі і хвароба звязаны з гэтым!**

—На сённяшні дзень я не маю маральнага права сказаць штонебудзь адносна дыягназу. Але ў мяне, як у чалавека, ёсць суб'ектыўная думка адносна яго хваробы. Што ж тычыцца працэсу па пераадольванню яго недамагання, то тут я магу выказаць свой пункт гледжання. Калі проста і адкрыта, Мікалай Іванавіч прыйшоўся не да кампаніі, бо сама па сабе сістэма праваахоўных органаў знізу даверху карумпіраваная. А Ігнатовіч чалавек, які нават на крок не мог адступіць ад закона. Гэта яго ўнутраная сутнасць. Таму і ўзніклі ўсе складанасці з выездам на лячэнне. Чалавек ён сумленны, ад прапаноў, што рабілі яму, ён адмаўляўся...

Калі мы даведаліся аб гэтым, я і Міхаіл Собаль практычна прышлі ў шокавы стан. Вось, напрыклад, на першым этапе скрываўся дыягназ. Па-другое, курс лячэння затармажваўся. Калі я паглядзеў спіс урачоў, што былі пры ім задзейнічаны, то ўбачыў, што працэнтаў на 80 гэта тыя людзі, што атрымалі кандыдацкія пры ранейшай сістэме. Гэта само за сябе гаворыць, хаця канкрэтна я не магу нікога абвіняць.

Разам з Собалем мы ўзялі на сябе адказнасць, хоць Мікалай Іванавіч быў катэгарычна супраць, выступіць па тэлебачанню. Бо калі, не дай Бог, што здарыцца, я не мог бы сябе не дакараць, што ведаў і не мог прадухіліць...

**—Чаму ж, як вы думаеце, Кебіч не прыняў дэпутатаў, якія ішлі да яго з хадатайствам наконт выезда Ігнатовіча за мяжу! Аб якіх справах з мільярдамі, што перададзены Генеральнаму пракурору, вы гаварылі!**

—У Ігнатовіча, як пракурора, нашы канкрэтныя пытанні аб незаконнай прыватызацыі. Там мы расклалі поўнасцю механізм гэтых незаконных актаў. І я, як чалавек і грамадзянін, у адносінах да Кебіча буду прынцыпова стаяць да канца па той прычыне, што я яму магу сёння прад'явіць абвінавачванні, бо Кебіч задзейнічаны ў незаконных аперацыях. І гэта бачна няўзброеным вокам, паколькі ён выконвае заказы яшчэ той сістэмы, якой сёння не стала.

**—Вы маеце на ўвазе і пераўтварэнне ў камерцыйную структуру Белдзяржстраха!**

—Так, тут і па прычыне мільярдаў Стасюка. Той жа Кебіч падпісаў дакументы адносна Белдзяржстраха. Але ў гэтай гісторыі мне не спадабаліся адносіны апазіцыі...

**—Чаму!**

—Таму што апазіцыя не ставіць ў належнай ступені законы аб прыватызацыі. Яна ставіць толькі пытанне аб яе законнасці. А трэба паставіць пытанне аб перадачы часткі маёмасці Рэспублікі Беларусь насельніцтву з мэтай, каб даць нейкім чынам магчымасць спыніць працэс гэтай прыхватызацыі.

**—Ці звязваеце вы адраджэнне кампартыі з хваробай Ігнатовіча! Пэўна ж, пракуратура была аслаблена, бо ў ёй, прама кажучы, не ўсе стаяць пад літарай закона! Ці правільныя высновы зрабіў суд адносна Мінюста!**

—Гэта быў, на маю думку, свайго роду абход з боку камуністаў. Я не здзіўлюся, калі рана ці позна даведаюцца, што рашэнне Мінюста па адмове ў рэгістрацыі было загадзя спланавана. Бо лепшых, чым пры супраціўленні, абаротаў не набераш, многіх магло прыцягнуць на бок камуністаў менавіта забаронай: калі забараняюць, значыць, баяцца.

## БЕЛАРУСЫ Ў МІЖНАРОДНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

**У Камянцы-Падольскім на Украіне адбылася цікавая міжнародная канферэнцыя па тэме «Чалавек, грамадзянская супольнасць і дзяржава ва ўмовах палітычнай рэальнасці ў цэнтральна-усходняй Еўропе: гісторыя і сучаснасць».**

У рабоце трох секцый прынялі ўдзел навукоўцы Літвы, Украіны, Беларусі, Польшчы, Германіі і Францыі. З боку Беларусі выступілі Вячаслаў Рагойша («Купалаўская канцэпцыя дзяржаўнай незалежнасці і сучаснасць»), Адам Мальдзіс («Беларускі шлях да незалежнасці і пазіцыя суседзяў»), Павел Лойка («Літоўска-польскае панаванне ў падручніках беларускай гісторыі»), Алесь Жлукта («Класічная адукацыя на Беларусі як спосаб зберажэння нацыянальнай ідэнтычнасці і еўрапейскай культурнай еднасці»), Алег Бембель («Хрысціянская Беларусь у хрысціянскай садружнасці нацый») і Алег Трусаў, намеснік старшыні камісіі па культуры, адукацыі і гістарычнай спадчыне ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь.

Толькі з назваў дакладаў яскрава бачна, што ў нас была нацыянальная гісторыя, нацыянальная культура і, зразумела, нацыянальныя праблемы. Бачна, што ў нас ёсць свае навукоўцыдаследчыкі, якія адкрываюць вочы не толькі самім беларусам, але і на міжнароднай арэне. Так што дарэмна некаторыя невукі спрабуюць давесці, што нас ніколі не было. Мэта іх зразумелая. Як зразумела і тое, што ад замоўчвання ці адмаўлення не знікае гістарычная праўда.

Канстатуючы факт удзелу беларускіх вучоных у міжнароднай навуковай канферэнцыі менавіта як факт прызнання нашага народа, я хачу тэзісна ахарактарызаваць выступленне Алега Трусава не толькі як палітыка ад апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, але як вучонага. Яго даклад на канферэнцыі быў прысвечаны тэме «Пераадольванне імперскага сіндрома ў выкладанні нацыянальнай гісторыі». Выступаючы засярodзіў увагу на тым, што «пасля знікнення з геаграфічнай карты свету самай вялікай за ўсю гісторыю чалавецтва таталітарнай дзяржавы пад назвай СССР у гістарычнай навуцы былых савецкіх рэспублік запанавала разгубленасць. Бо падручнікі па гісторыі СССР, якія складаліся з прыпараванай у адпаведнасці з бальшавіцкімі догмамі гісторыі Расіі і некаторых дадаткаў з гісторыі асобных дзяржаў, што некалі паглынула супердзяржава, сталі нікаму непатрэбнымі».

Таму на сёння, адзначыў спадар Трусаў, паўстала праблема па стварэнню не палітызаваных, а пазбаўленых пэўных ідэалагічных перакосаў, падручнікаў тых краін, якія зараз набылі незалежнасць. Але стварыць іх немагчыма без пераадолення імперскіх гістарычных міфаў, аснова якіх была закладзена рускімі гісторыкамі яшчэ раней, а потым «творча дапрацавана» спецыялістамі сталінска-брэжнеўскай фармацыі. Да такіх міфаў, што патрэбна ліквідаваць сумеснымі намаганнямі беларускіх і ўкраінскіх гісторыкаў можна, адзначаў прамоўца, аднесці наступныя:

а) Існаванне ў IX—XIII ст. ст. «старажытнарускай дзяржавы» і «старажытнарускай народнасці».

б) Канцэпцыя Вялікага княства Літоўскага,—як дзяржавы літоўскіх феадалаў, што сілай захапілі беларускія і ўкраінскія землі.

в) Рэч Паспалітая—дзяржава польскіх феадалаў (паноў), што заняволілі беларускі, украінскі і літоўскі народы.

г) «Вызваленчая» вайна беларусаў і ўкраінцаў 1648—1667 г.г. з мэтай далучэння да Расійскай дзяржавы.

д) «Уз'яднанне» Беларусі і часткі Заходняй Украіны з Расійскай імперыяй як станоўчы фактар гісторыі беларусаў і ўкраінцаў.

е) Замоўчванне і фальсіфікацыя гісторыі ўзнікнення незалежных Беларускай і Украінскай дзяржаў у 1917—1918 гады.

ж) Акрамя гэтых і іншых гістарычных міфаў беларускія і ўкраінскія гісторыкі павінны агульнымі намаганнямі даць ацэнку вынікаў драпежнага Рыжскага міра 1921 года, а таксама пакту Молатава-Рыбентропа 1939 года, напісаць праўдзівую гісторыю Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху на тэрыторыі, часова занятай нямецкімі войскамі.

Для вырашэння гэтых складаных пытанняў прапанавалася «на дзяржаўным узроўні стварыць сумесную беларуска-украінскую камісію, у якую могуць увайсці прадстаўнікі грамадскасці, палітычных рухаў, партый, навукоўцаў, журналісты, а таксама народныя дэпутаты адпаведных парламенцкіх камісій.

**Матэрыял падрыхтавала Вера АДРАДЖЭНСКАЯ.**



 

*Позиция безработного*

## УМЕРЛИ КУПОНЫ

Купоны теперь оказались не нужными. О чем это говорит? По-моему, придумали их люди не весьма, скажем мягко, знающие свое дело. У меня больше 1000 купонов осталось. Недавно я их выбросил. А это значит, что практически никакой защиты рынка республики так и не было.

Валюта Беларуси—это другое дело. Зенон Позьняк предлагал ее ввести давно. Но Верховный Совет его не послушал. И вот извели столько средств и бумаги на купоны, талоны, визитки. И все оказалось впустую.

Товарищ Кебич! Занимаетесь вы не тем, чем нужно. При вас монополистам на цены раздолье. Творится что-то немыслимое. Приведу пример. С повышением цены на сметану на молочных заводах сократились заявки на молочные продукты. Торгаши боятся, что эта продукция будет пользоваться меньше спросом, а она ведь скоропортящаяся. Вот теперь и треплют друг другу нервы продавцы, покупатели, производители.

Вижу вашу беду, уважаемые товарищи Кебич и Шушкевич в том, что у вас нет никакой сегодня реальной программы, по которой можно вывести республику из кризисной ситуации. Зато какие-то временные меры, какая-то косметика, лубок, а точнее, игра на публику, видимость государственной деятельности. Никакой перспективы у Беларуси с нынешним Верховным Советом!

Я поставил свою подпись под требованием провести референдум. Ведь провести его в республике надо было еще раньше. И проявить бы в этом инициативу надо было самим товарищам Кебичу и Шушкевичу. А для чего же тогда эти руководители занимают такие высокие государственные посты? А, выходит, что им референдум не нужен.

Меня очень волнует пассивность, какая-то безысходность нынешнего Верховного Совета Беларуси. Что они могут, эти народные депутаты, если большинство из них бывшие партийные работники? Они любое дело завалят. Зато себя не забывают. А как же они могут по-другому.

Самый живой факт. Несмотря на собранное нужное количество подписей, дело с референдумом подвигается очень медленно.

Корпус Верховного Совета Беларуси фактически два года отсидел, не проводя коренных реформ. Если не проведем референдум, он просидит таким же образом еще три года и утопит республику в нищете, столкнет народ в пропасть безысходности.

Так что спасибо сердечное нынешнему Верховному Совету и правительству за майкопскую колбасу по 324 рубля за килограмм, а задно и за стакан хлебного кваса, который совсем еще недавно стоил 2 копейки, а сейчас 1 рубль. Поэтому только референдум. И как можно быстрее!

**А. ИВАНОВСКИЙ, безработный с 7 мая 1992 года. Уволен в связи с сокращением штата. Состоит на учете на бирже.**

*Слова з крыжа маўчання*

# ВОСЬ ТАКІ ЁН, СУД ТАВАРЫСКІ...

Гады чатыры назад я прыехаў у Талачын працаваць у раённай газеце. Пазнаёміўся з вясковай жанчынай, даяркай, ды і сышоўся з ёю. Аліна Іванаўна, жонка, жыла разам з дзецьмі ў струхнелай будыніне, якую і домам назваць было цяжка. Тадышняя старшыня калгаса імя Леніна Л. А. Навумава не адзін год карміла яе абяцанкамі нарэшце будаўніцтва новага дома. Нарэшце заклалі падмурак, узвялі сцены. Але затым будаўнікоў, як гэта звычайна бывае, перакінулі на іншы аб'ект.

Аліна Іванаўна, патрэбна адзначыць, старанная была працаўніца, ды і цяпер такой жа засталася, на падыходзе да пенсіі. Балюча перажывала яна маруднасць будаўнікоў ці, больш дакладна, не вельмі гарачае жаданне калгасных кіраўнікоў перасяліць яе сям'ю ў дабротны дом.

І не ведала гаротная жанчына, бадай, усё сваё жыццё аддаўшая нялёгкай працы ў жывёлагадоўлі, што яе чакаюць наперадзе новыя непрыемнасці, новы здзек.

...—А цяпер ты, Аліна Іванаўна Баравіцкая, выходзь да стала і адказвай таварыскаму суду, чаму ўзвялі паклёп на Алу Станіславаўну, быццам тая крала на свінакомплексе свініну і закатвала ў трохлітровыя шкляныя слоікі, якія і знайшлі ў яе работнікі міліцыі...

Слухаючы гэтыя словы старшыні калгаса Л. А. Навумавай, Аліна Іванаўна спачатку не паверыла, што яны звернуты да яе. Але ж асуджальны позірк старшыні скіраваны прама на яе, як і позіркі членаў таварыскага суда гаспадаркі, якія сядзелі за сталом. І намеснік старшыні калгаса, яна ж—сакратар парткама А. С. Павадырова—з пагардай паглядае менавіта на яе, Аліну Іванаўну.

—Хто гэта можа пацвердзіць, што менавіта я?—неяк знайшла ў сябе сілы спытаць Аліна Іванаўна.

—Ёсць сведка, але я не хачу выдаваць яе,—азвалася А. С. Павадырова.

Аліна Іванаўна прама перад сталом бухнулася на калені і пачала хрысціцца, паўтараючы:

—Не вінаватая я... Ні ў чым не вінаватая...

Як стала вядома пазней, А. С. Павадырова, паверыўшы балбатні адной ачмурэлай ад гарэлкі, страціўшай розум і сумленне жанчыне, ірвалася даставіць Аліну Іванаўну на таварыскі суд з дапамогай участковага. І толькі выпадкова не зрабіла гэтага. Душэўную траўму нанесла яна Аліне Іванаўне. І хаця праз некалькі дзён пасля таварыскага суда, які ніякага рашэння так і не вынес, А. С. Павадырова знайшла ў сабе сілы папрасіць прабачэння, апошняя, літаральна, цэлы дзень не магла прыйсці ў сябе. Ды і цяпер яшчэ, праз гады, калі раптам нагадвае той выпадак, адчувае сэрцабіцце.

Чым я мог дапамагчы жанчыне? Напісаць аб гэтым абуральным выпадку ў «раёнку»? Але ж рэдактар А. Д. Арлоўскі не даў бы матэрыял у газету. Ды і загадчык аддзела тадышняй «Сельскай газеты» А. Цількоў, выслухаўшы па тэлефоне мяне, азваўся:

—Гэта тая гаспадарка, дзе старшынёй з'яўляецца Герой сацыялістычнай Працы Л. А. Навумава? Можа б лепш разабрацца з канфліктам на месцы?

Такі быў высокі аўтарытэт Лідзіі Андрэеўны Навумавай не толькі ў раёне і вобласці, але нават і ў рэспубліцы і за межамі яе.

Гэта пазней ужо, калі многія дутыя аўтарытэты лопнулі, нібы тыя мыльныя бурбалкі, калі людзі ўбачылі сапраўднае становішча спраў у «славутым» калгасе імя Леніна і, як кажуць, папрасілі з мяккага старшынёўскага крэсла Л. А. Навумаву, пазней многае тайнае стала яўным. У тым ліку і абыякавасць Лідзіі Андрэеўны да радавых сваіх працаўніц, у чым даярцы А. І. Баравіцкай давялося даволі хутка пераканацца.

Я ўсё ж дапамог Аліне Іванаўне напісаць скаргу ў «Советскую Белоруссию» з просьбай апублікаваць яе альбо выслаць карэспандэнта і разабрацца ў канфлікце на месцы. І, як высветлілася, гэтым толькі яшчэ раз разбярэдзіў ёй душу. Бо скаргу Аліны Іванаўны рэдакцыя выслала ў Талачынскі райвыканкам. Для разбору, так сказаць, на месцы.

...Аліна Іванаўна падыходзіла да фермы, калі са стаяўшай непадалёк «Волгі» раздаўся голас Л. А. Навумавай:

—Падыдзі, Іванаўна, да нас...

Яе запрасілі ў «Волгу», дзе, акрамя Л. А. Навумавай, сядзела сакратар райвыканкама А. Р. Усоўская. У руках яна трымала знаёмае пісьмо ў «Советскую Белоруссию».

—Будзем разбірацца,—заявіла А. Р. Усоўская.—Вось тут напісана, што табе, жывёлаводу і каня без бутэлькі нельга ўзяць у скотніка-пастуха, і працавала ты ўсё лета і восень у хляве з прадзіраўленым дахам, і дом табе марудна будуюць, ды яшчэ ў дадатак і пакрыўдзілі цябе, наладзіўшы таварыскі суд. Што ж, праверым, ці так гэта ўсё...

Яна адчыніла дзверцы «Волгі» і паклікала праходзіўшага міма жывёлавода:

—Паслухайце, ці дасцё ёй (паказала рукой на Аліну Іванаўну) пры патрэбе каня?

—А чаму ж не? Няхай бярэ хоць зараз—шырока ўсміхнуўся работнік фермы. Ён разумеў, як трэба адказваць на такое пытанне. А тое, што на брыгадным двары не было ні вупражы, ні калёс, ні плугоў, і каб узяць іх для апрацоўкі агарода ці іншых патрэб, неабходна ўмольваць скотніка-пастуха, а ён без бутэлькі нічога не дасць, А. Р. Усоўскую менш усяго цікавіла.

—Ну вось бачыце, факт не пацвярджаецца,—задаволена зазначыла А. Р. Усоўская.

—Цяпер наконт дзірак у даху хлява,—працягвала Ала Рыгораўна.

—Адрамантавалі дах,—паспяшалася растлумачыць Л. А. Навумава.

—Значыць, і гэты факт не пацвярджаецца,—падагуліла А. Р. Усоўская.—Цяпер паедзем да тваёго дома, паважаная Аліна Іванаўна.

Прыехалі да будыніны, у якой жыла Аліна Іванаўна, зайшлі. Гаспадыня напярэдадні выпаліла ў печы і ў хаце было цёпла. Праз гадзіну-другую цяпло гэтае ўлятучваецца праз шматлікія дзіркі ў сценах і столі, але пакуль трымалася.

—О-о, ды тут яшчэ пяцьдзесят гадоў можна пражыць,—усклікнула А. Р. Усоўская.—А вам новы дом будуюць...

Яна мела на ўвазе некалькі калгаснікаў, якіх Л. А. Навумава тэрмінова паслала на аб'ект зрабіць выгляд, што яны працуюць там і якія неадкладна зніклі пасля ад'езду «правяраючай».

Пішу гэтыя радкі і здзіўляюся. За што так абышліся з даяркай? За тое толькі, што яна намервалася заступіцца за сябе, за свой гонар? А І. С. Шчурок, да якога я звяртаўся за дапамогай у бытнасць яго першым сакратаром РК КПБ, заявіў тады, што А. С. Павадырову ён паважае і не дасць яе ў крыўду.

**М. БАШАРЫМАЎ,**
**г. Талачын**



Каваль Аляксандр Дубіна, г. Глыбокае.

*Рэпліка*

## ЧАРОЎНАЯ СІЛА ПАЭЗІІ

Наколькі мне стала вядома, мая публікацыя ў «Выбары» № 10 за 20 мая гэтага года «Згарыць няхай ён, гэты дом!» выклікала, як гаварылася да нядаўняй пары, «неадназначную» рэакцыю сярод некаторых былых партапаратчыкаў.

У тым сваім вершы я вывеў абагульнены вобраз партбюракрата, надзяляючы яго рысамі, узятымі паасобку з цэлага тузіна, калі не больш, партыйных чыноўнікаў, якіх даводзілася сустракаць у сваім жыцці.

І калі нехта канкрэтны пазнаў сябе ў створаным вобразе—не мая віна. Я магу гэтым толькі ганарыцца—значыць паэзія мая нечага вартая. Вось у чым яна, чароўная сіла паэтычнага слова! Хто скажа зараз, што лірыка далёкая ад жыцця?

**І. ЛАЗУКА.**
г. Сянно.

# «ЯД ВАШЕМ — ВЕЧНЫЙ ПАМЯТНИК»

**НА ГРАНДИОЗНОМ МЕМОРИАЛЕ «ЯД ВАШЕМ» («ВЕЧНЫЙ ПАМЯТНИК») В ИЕРУСАЛИМЕ НА ОДНОЙ ИЗ КАМЕННЫХ ГЛЫБ ВЫБИТА НАДПИСЬ ОБ УНИЧТОЖЕННОЙ ОБЩИНЕ ГОРОДА ВИТЕБСКА**

*Надпись на памятнике в урочище реки Витьба рядом с ветеринарным институтом: «Здесь погребены тысячи расстрелянных жертв фашистской оккупации. Родина-мать вечно будет помнить героев, отдавших свою жизнь за счастье и мир на земле!». Да, действительно, люди, расстрелянные здесь, были советскими гражданами. Но убивали их не за то, что в кармане у них лежал советский паспорт. Расстреливали их за другую «провинность». Ту, что в паспорте обозначена пятым пунктом. Казнили только за то, что их родила еврейская мать.*

**Вспоминает Софья Иосифовна Гольдина:** «Когда началась война, я работала учительницей младших классов в 10-й Сталинской школе. Мы попробовали эвакуироваться, но успели добраться только до Смоленска. Впереди нас уже были немцы. А моего отца, и без того уже пожилого человека, осколком бомбы ранило в голову. Решили вернуться домой. До войны мы жили в своем доме, рядом с Косовой горой. Вернулись, а дом занят. Один из наших бывших соседей решил, что все равно добру пропадать, и занял наш дом. Мы вернулись, а он нас и на порог не пускает. «Все равно вас расстреляют, а мне из-за вас дом не достанется». Так мы и скитались по улицам несколько дней и ночей, пока фашисты не стали сгонять всех евреев на тот берег Западной Двины в бывшие овощные склады. Условия там были кошмарные. Но против того, что мы увидели, когда было организовано гетто, это был рай. Гетто (Приказ о заключении евреев Витебска в гетто военный комендант города издал в конце июля—начале августа 1941 года —А. Ш.) находилось рядом с «Клубом металлистов» и занимало несколько окрестных кварталов. Его оградили высоким забором с колючей проволокой. Охраняли в основном полицаи. Кушать ничего не давали. Люди жили, как могли. Спали на лестничных клетках, в подвалах, на чердаках. Многие умирали от болезней, голода, начались эпидемии. Были и такие, кто не выдерживал и сходил с ума. Решила бежать. И в один из дней я перелезла через забор. Полицай пытался задержать меня, не знаю, откуда взялись силы, я оттолкнула его и скрылась. Вышла из города и ушла по направлению к деревне Стырики. До войны там работал мой отец. Меня там знали. Русские люди помогли мне. Кто давал поесть, кто давал отдохнуть час—другой. А потом я встретила партизан и перешла к ним в отряд. Вот так осталась жива, хотя натерпелась и потом вволю. Приходила в город. Передавала в гетто какую-нибудь еду для родителей. С осени немцы начали «выборочные» расстрелы в гетто. Расстрелы шли в нескольких местах города. Одно из них было за ветеринарным институтом на берегу Витьбы. А когда уже лежал снег, они ликвидировали гетто. Моих родных—15 человек—расстреляли там же, на берегу реки».

*Хочется верить, что не когда-нибудь, а в ближайшее время памятник перестанет быть безымянным, что рядом с русскими буквами будет поминальная надпись на еврейском языке, на том самом, на котором сказали свои последние слова люди, погребенные здесь. И, может быть, тогда хорошие слова о том, что «Родина-мать будет вечно помнить...» перестанут быть звучать кощунственно.*




*Несколько лет назад, когда в газетах стали появляться первые «живые» слова, я прочитал в «Витебском рабочем» письмо о том, что на месте гетто необходимо поставить обелиск, повесить мемориальную доску. Я помню ответ Сергея Наумчика, который тогда баллотировался в депутаты Верховного Совета БССР, о том, что такая мемориальная Доска—это наш долг... Ни доски, ни обелиска, ни Знака нет до сих пор на здании районного Дома культуры (бывшего Клуба металлистов) и в ближайшее время похоже не будет. Я понимаю, что сейчас трудное время, есть дела неотложные. Но в одном я убежден, что сейчас как относятся к мертвым, так относятся и к живым.*

**Вспоминает Семен Исаакович Угориц:** «Четвертого ноября 1941 года молодой полицай, он жил на нашей улице, сказал:

—Семен, если не выйдешь из гетто, значит все, завтра—конец вам.

Я прибежал, сказал родителям, сестре. Они не поверили. Да и тяжело им было решиться на побег. А я решил бежать. Мать дала две тридцатки, кое-какие вещи. И подвалами домов вышел из гетто и подался к другу, однокласснику Николаю Удановскому. Мать Удановского сказала:

—Чем я тебе могу помочь? У нас отец коммунист, сами боимся. Можем дать тебе метрики Коли, а дальше ты сам выбирайся.

Назавтра я стоял около пекарни на Замковой улице и видел, как машины вывозили евреев из гетто. Их везли расстреливать в сторону деревни Тулово. Мне показалось, что кто-то из машины махнул мне рукой...»

*Иловский ров. Он тянется через Себяхи, Тулово. Со стороны Себяхов грохочут поезда, бродит одичалая собака. Со стороны Тулово —частные гаражи. Пятьдесят лет назад здесь шли массовые расстрелы еврейского населения и военнопленных. С 41-го по 43-й годы было расстреляно восемь тысяч человек. И нигде ни памятного камня, ни обелиска, ни таблички.*

*Впрочем, пусть лучше говорят архивные документы.* «Детей, стариков бросали в ров и закапывали живыми, а потом по этим могилам проходила немецкая грузовая автомашина по несколько раз. Из фактов массового расстрела в этом рву можно привести следующие: в октябре месяце 1941 года с 20 по 25 числа подряд немцы привозили людей на автомашинах, не доезжая метров сто до рва, группами в 10—15 человек подводили ко рву и расстреливали, а также бросали в яму живых людей, раздетых догола и так в течение 3-х суток немецкие бандиты убивали здесь советских людей, творили неслыханные злодеяния...

...Для того, чтобы скрыть следы своих преступлений, в сентябре месяце 1943 года немецкие каратели организовали раскопку и сжигание трупов. Для раскопки и сжигания были привлечены советские люди из числа военнопленных, о судьбе которых неизвестно. Раскопка и сжигание трупов продолжалась в течение целого месяца. Одна группа в количестве 20 человек советских граждан, которые были привлечены для сжигания трупов, в конце этой работы сами были расстреляны и сожжены.»

*Эти строки из «Акта о злодеяниях немецко-фашистских захватчиков на территории Витебского района», который был составлен сразу после войны районной комиссией по учету ущерба и злодеяний, нанесенных немецко-фашистскими захватчиками и их сообщниками. Они свидетельствуют о том, как пытались замести следы своих преступлений фашисты. Кто же потом, почти пятьдесят лет спустя, ссылаясь на занятость или беспамятство, продолжал скрывать следы этих кровавых преступлений?*

*Только в 1941 году в Витебске было убито почти 20 тысяч евреев. Вот страшная хроника этих преступлений.*

Через две недели после оккупации города немецкий комендант издал приказ, согласно которому все евреи должны переселиться на правый берег Западной Двины. Переправа людей, живших на противоположном берегу, производилась на лодках. Когда перегруженные людьми лодки достигали середины реки, фашисты, их подручные, опрокидывали лодки. Люди, среди которых в большинстве были женщины, старики, дети, тонули. Пытавшихся спастись вплавь расстреливали или добивали прикладами. Так погибло две тысячи человек...

Октябрь 1941 года. Как доносил начальник полиции безопасности и СД о действиях айнзацгрупп на оккупированных территориях СССР, в Витебском гетто возникла большая опасность эпидемий. И поэтому было расстреляно три тысячи евреев...

Ноябрь 1941 года. Продолжается ликвидация гетто. По свидетельским показаниям, которые получили следователи Чрезвычайной государственной комиссии, в эти дни погибло свыше одиннадцати тысяч евреев...

Декабрь 1941 года. Все тот же начальник полиции безопасности и СД сообщает в Берлин о том, что очищено гетто в Витебске. Его последним днем стало 19 декабря. При этом расстреляно 4090 евреев...

*Недавно я вернулся из Иерусалима. В национальном институте памяти Катастрофы и Героизма «Яд Вашем» (эти слова в переводе с иврита обозначают «Вечный памятник»—А. Ш.) создается «Долина уничтоженных общин». Этот грандиозный мемориальный комплекс возводится в память о 20 тысячах еврейских общин Европы, уничтоженных в годы Второй Мировой войны. На площади в 2,5 гектара из глыб камня составлена огромная карта Европы. На каждой каменной глыбе надпись уничтоженной общины. Я долго стоял у камня, на котором высечено название нашего города. Так что память о витебских евреях, погибших в годы Катастрофы, увековечена на Земле.*

*Но, думаю, эти люди заслужили, чтобы памятники им стояли и здесь, на земле, где они родились, жили и погибли.*

**Аркадий ШУЛЬМАН.**



*Тэатр*

## І ЗНОЎ ГОГАЛЕЎСКІ «РЭВІЗОР»

Я думаю над банальным пытаннем: як прыняў бы сам Мікалай Васільевіч Гоголь прэм'еру коласаўцаў «ЧП-1?» Варыяцыі на тэмы камедыі М. В. Гогаля «Рэвізор». Дзейнічаюць у спектаклі звыклыя гогалеўскія персанажы. Гараднічы (н. а. СССР Ф. Шмакаў), Ляпкін-Цяпкін (з. а. РБ Л. Трушко), Земляніка (н. а. РБ Т. Кокштыс), Хлопаў (з. а. РБ М. Цішачкін), Хлестакоў (іх чатыры ў адным спектаклі: В. Асвяцінскі, Г. Гайдук, Г. Кірпічоў, М. Краснабаеў)... Нават у гэтым далёка не поўным пераліку дзеючых асоб спектакля чытач лёгка разгадае хрэстаматыйных гогалеўскіх персанажаў і адчуе эксперымент, які задумаў і ажыццявіў на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа мастацкі кіраўнік заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны Б. Эрын.

Што за эксперымент? Пастаноўка нараджаецца на вачах гледача, стваральнікі спектакля просяць парады і ўдзелу гледача ва ўвасабленні бясконца вядомай камедыі М. В. Гогаля «Рэвізор» на сцэне менавіта сёння. Якая гогалеўская крайнасць, што разгортваецца ў сюжэце спектакля, можа быць найбольш прыдатнай на сённяшні дзень? Можа, страх?

Першы варыянт знакамітай сцэны: «Я запрасіў вас, панове, каб паведаміць надта ж непрыемную навіну»... Ды хто цяпер каго і чаго баіцца? А, можа, мафія?—Так, гэта моцная кампанія, якую проста так не возьмеш. А, можа, пародыя? —У сцэне пасяджэння палітбюро. Дарэчы, гэтая сцэна выклікае супрэчкі нават сярод стваральнікаў спектакля. А можа быць, і першае, і другое, і трэцяе?.. Паспрабуем падсумаваць усё тое, што гогалеўскае, што з'яўляецца ў кожным варыянце!—прапануе рэжысёр!

А ў сцэне сустрэчы Гараднічага з Хлестаковым у гасцініцы нам прапануюць элементы драматургіі абсурда. Гараднічаму бачацца адразу чатыры Хлестаковых. Кожны з іх з'яўляецца нечакана, наганяючы жах на чыноўнікаў. Усе гэтыя гогалеўскія катэгорыі даведзены да кульмінацыі ў III акце, у добра вядомай сцэне хлусні Хлестакова, якая заканчваецца ўзвядзеннем помніка пустэчы. Вось яно —тое сучаснае, што не можа не зацікавіць сучаснага гледача.

У спектаклі—цэлы шэраг вельмі нечаканых пярэўвасабленняў. Осіп—н. а. РБ У. Куляшоў, Добчынскі, Бобчынскі—В. Дашкевіч, А. Лабанок, Анна Андрэеўна—Н. Левашова, Мар'я Антонаўна—В. Куляшова (гэта дэбют на коласаўскай сцэне выпускніцы Беларускай акадэміі мастацтваў).

Спектакль у многім спрэчны. Але тым і цікавы, што выклікае неабходнасць выказаць супрацьлеглыя думкі.

27 мая адбылася прэм'ера спектакля. А ў кастрычніку, пасля выпуску другой часткі спектакля—«ЧП-2», коласаўцы запросяць віцяблян на спектакль, які будзе доўжыцца два вечары. Нечаканасць?

А, можа, зварот да добрых тэатральных традыцый?

**С. ДАШКЕВІЧ,**
**загадчык літаратурнай часткі тэатра імя Я. Коласа.**

● *Письма читателей* ● *Письма читателей* ● *Письма читателей* ●

# СОВЕТСКАЯ АРМИЯ—ГУЛАГ?

Недавно я посмотрел по телевидению фильм рижских кинематографистов «Это и мои сыновья», который приоткрыл завесу над нашей нынешней доблестной Советской Армией. В своем репортерском блокноте я еле успевал делать заметки. Вот некоторые записи.

**В деревянном ящике—цинковый гроб. Солдат погиб в мирное время.**

**Черепно-мозговая травма. Алтай. Причина травмы: настоящее удушение. На бетонном полу во время занятий. Молодой солдат стал инвалидом второй группы.**

**Ребята на учениях. Загнанные человеко-лошади. Злое лицо сверхсрочника: «Вперед, быки! Я вас научу Родину любить!»**

**Морская пехота. Гроб.**

**Военное кладбище в Киеве. Родители вдовем на похоронах. Дедовщина. Солдат умер от побоев. Били так, что тело отстало от костей.**

**Служил в Ярославле. Били тупыми предметами.**

**Советская Армия—умышленное истребление молодых людей. Судить за это никого не разрешают. Армия—государство в государстве со своими мерками, юристами.**

**Плакат: «Советская Армия—Гулаг наших сыновей...»**

То, что пришлось увидеть в фильме, не выдумка, а наша жизнь, задокументирована она объективом кинокамеры.

Поделился я увиденным с матерями-витебчанками. Записал в том же блокноте рассказ одной из них, Людмилы Петровны.

**Моему сыну еще предстоит пойти служить в армию. И я с ужасом смотрела на то, как матери оплакивали своих сыновей. Погибает в армии каждые 20 минут по человеку (в мирные-то дни!). У нас продолжает существовать информационная блокада, иначе многие бы узнали, что в октябре в Москве у Белого дома матери погибших военнослужащих проводили голодовку в знак протеста против бесчеловечного отношения армейских командиров (вплоть до министра обороны СНГ Шапошникова Е. И.) к их жалобам. Никогда не было (и теперь не принимается) закона, защищающего молодую жизнь. Перед надвигающейся бедой на моего сына я, как мать, бессильна, не в состоянии одна что-либо предпринять. Может нам, женщинам-матерям тех, кто служит в армии и тех, кто будет еще призываться, объединиться, как это уже сделано в России! И вместе с матерями погибших потребовать, как и российские матери:**

**1. Провести амнистию так называемым «дезертирам» и впредь не привлекать к уголовной ответственности военнослужащих, оставляющих воинские части в мирное время по мотивам угрозы жизни и здоровью.**

**2. Ликвидировать военные прокуратуры, трибуналы, дисбаты, устранить институт дознавателей, отказать в праве командирам воинских частей решать вопрос о возбуждении и невозбуждении уголовных дел на военнослужащих.**

**3. Призыв в армию юношей осуществлять один раз в год (исчезнет кастовость, а значит и «дедовщина»).**

**4. Призывать в армию на действительную службу с 20—21 года, а может и в 25 лет.**

**5. Обеспечить доступ в воинские части, госпитали, на гауптвахты народным депутатам всех уровней, представителям общественности.**

Такие требования я считаю вполне выполнимыми и разумными.

А как вы, уважаемые читатели? Что вы скажете по поводу предложений Людмилы Петровны?

**К. СКОСЫРСКИЙ**

*НАВІНЫ*

## ДАЛУЧЭННЕ ДА АДРАДЖЭННЯ

У абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці адкрылася выстава дзіцячай творчасці. На ёй шырока прадстаўлены творы дзяцей самага рознага ўзросту з нашага горада. Найбольшую частку экспазіцыі састаўляюць прадметы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, выкананыя ў беларускіх народных традыцыях. Тут прадстаўлены ганчарства і ткацтва, нацыянальны касцюм, разьба і вышыўка, вырабы з саломкі і г. д. Нацыянальна-адраджэнская тэматыка ярка бачна ў жывапісу і графіцы. Народныя абрадавыя святы, напрыклад, малююць юныя творцы са школы № 25. Вучні той жа СШ даследуюць дойлідства Беларусі праз мастацкае асэнсаванне яго ў сваіх карцінах. Сучасныя віды мастацтва ўдала спалучаюцца з нацыянальным у папераппластыцы (СШ № 25) і батыках дзіцячай мастацкай школы, у працах дзяцей з іншых навучальных устаноў.

**М. МАРУДАЎ.**

Выпушчана серыя з дзевяці значкоў—гербаў старажытных паселішч Віцебшчыны.

Лютаўскі нумар газеты «Беларус» (Нью-Ёрк) змясціў інфармацыю пра навуковую канферэнцыю па пытаннях гісторыі, што адбылася ў Віцебску і Полацку ў лістападзе мінулага году.

У ЗША выйшаў «Беларуска-англійскі / англійска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй Аляксандра Ушкевіча і Аляксандры Зязюлінай.

**Ю. СЦЯПАНАЎ.**




**Наступны нумар газеты выйдзе 8 ліпеня 1992 г.**



*УЧРЕДИТЕЛЬ:*
*Витебский городской клуб избирателей «За демократические выборы».*

**Главный редактор**
**Леонид ЦВИКА**

Художник Г. Кликушин.
Фотографии М. Михайлова.
Адрес редакции: 210601, г. Витебск, ул. Гоголя, 17, тел. 37-35-06, 37-28-44.

**Авторы опубликованных материалов несут ответственность за подбор и точность приведенных фактов, цитат, экономико-статистических данных, имен собственных, географических названий и прочих сведений, а также за то, что в материалах не содержится данных, не подлежащих открытой публикации.**
**Редакция может опубликовать статьи в порядке обсуждения, не разделяя точку зрения автора.**

Рукописи не возвращаются и не рецензируются.

Текущий счет редакции № 200700962 в Витебском коммерческом банке («Витккомбанк»). Код (МФО) банка 150801701.
Газета набрана и отпечатана офсетным способом в Витебской укрупненной типографии им. Коминтерна: гор. Витебск, ул. Щербакова-Набережная, 6.
Полиграфисты: **В. Корунас, Т. Халеева, Л. Дроздова, А. Каспорович, Д. Малышев, Б. Платовский.**
Номер подписан к печати 16.06.1992 г. в 17.15.
Зак. 30 41 Тираж 2500.

*Цена 80 коп.*